


У краме вучнёўскай спулдзельні Кляшчэлеўскай школы. Прадаўшчыцы Т. Кулікоўская і В. Макарава. **Фота М. Гайдука**

№ 9 (892) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 2.III.1975 г.

# ХТО МАЦНЕЙШЫ

**(Афрыканская казка)**

Чарапасе вельмі хацелася быць падобнай на самых моцных звяроў на свеце. Усюды і заўсёды яна гаварыла: «Слон, Гіпапатам і я, Чарапаха, — наймацнейшыя на свеце».

Аб самахвальстве Чарапахі даведаліся Слон і Гіпапатам. Даведаліся і засмяяліся: «Але ж і бязглуздзіцу гародзіць гэтая Чарапаха! Але не варта звяртаць на гэта ўвагі».

Калі гэтыя словы дайшлі да Чарапахі, яна раззлавалася: «Добра, я ім пакажу!»

Праз некалькі дзён Чарапаха адшукала Слана ў лесе. Ён спакойна стаяў на паляне. Яго вялізны хобат цягнуўся на восем міль, вушы раскінуліся, як палаткі, а ногі былі падобныя на гіганцкія слупы.

Чарапаха ціхенька падышла да Слана і сказала: «Сябра мой, гэта я прыйшла. Прывітайся са мной, я ж твая прыяцелька!»

Слон здзівіўся. Потым злосна запытаў: «Гэй, малеча, ты да каго гаворыш?»

«Да цябе. Я назвала цябе сябрам. А ці ж гэта не так?»

«Вядома, што не так, — злосна сказаў Слон. — Апрача таго, ты яшчэ разбалбаталася аб сваёй сіле, быццам яна раўняецца маёй! Як ты можаш?».

Чарапаха адказала: «Не злуйся, Слон, на мяне, а лепш паслухай. Гэта праўда, што я назвала цябе сябрам і сказала, што мы роўныя па сіле. Ты думаеш, што пераможаш мяне толькі таму, што я малая? А вось давай заўтра раніцай зробім спаборніцтвы па перацягванню вяроўкі. Паглядзім, хто мацнейшы».

«А які ў гэтым сэнс? — спытаў Слон. — Я магу раздушыць цябе адной нагой».

«Не спяшайся. Набярыся цярплівасці. Спачатку паспаборнічаем».

І калі Слон неахвотна згадзіўся, Чарапаха дадала: «Давай дагаворымся: хто з нас пераможа, той будзе лічыцца мацнейшым. Калі ў спаборніцтве будзе нічыя, тады, значыць, мы з табой роўныя па сіле і будзем называць адзін другога сябрамі».

Пасля гэтага Чарапаха сарвала доўгую вінаградную лазіну, падала адзін яе канец Слану і сказала: «Калі пачнецца спаборніцтва, не будзем перапыняць яго нават на час яды і сну, пакуль адзін з нас не пераможа, або пакуль лазіна не парвецца».

Другі канец лазіны Чарапаха схавала недалёка ад дома Гіпапатама, які плюхаўся ў рацэ. Пасля гэтага яна паклікала яго: «Сябар, я прыйшла! Выходзь на бераг! Мне трэба пагаварыць з табой».

Пырскі вады разляцеліся ва ўсе



бакі, калі Гіпапатам выйшаў на бераг. Ён злосна буркнуў: «Чаго сюды з'явілася? І каго гэта ты назвала сябрам?»

«Вядома, цябе. І не спрачайся са мной, таму што я цябе не баюся. Хоць ты і вялікі, сілы ў нас аднолькавыя. А калі ты мне не верыш, давай зробім заўтра спаборніцтва па перацягванню вяроўкі. Хто з нас пераможа, той будзе лічыцца мацнейшым, а калі спаборніцтва закончыцца ўнічыю, тады мы з табой аднолькавыя па сіле і будзем называцца сябрамі».



Спачатку Гіпапатам вырашыў, што для яго сорам спаборнічаць з Чарапахай, але трошкі падумаўшы, згадзіўся. Тады Чарапаха падала Гіпапатаму канец лазіны і сказала: «Я цяпер пайду, а заўтра, як толькі пачуеш, што лазіну пацягнулі, цягні і ты з усяе сілы. Памятай, што мы не павінны ні есці ні піць, пакуль спаборніцтва не закончыцца».

На другі дзень, ледзь рассвіло, Чарапаха падышла да лазіны і пацягнула яе. Слон і Гіпапатам адразу ж схапіліся за лазіну, і пачалося перацягванне вяроўкі. Вінаградная лазіна нацягнулася і дрыжэла. Яна перасоўвалася то ў адзін, то ў другі бок, аднак ні адзін са звяроў не мог перамагчы.

Наглядаючы за лазінай, Чарапаха ў духу смяялася... Трошкі пачакаўшы яна пайшла паесці, пакінуўшы галодных Слана і Гіпапатама. Досыта наелася смачных грыбоў і ў цудоўным настроі легла спаць.

Вечарам яна прачнулася і сказала сама сабе: «Трэба пайсці паглядзець, ці тыя дурні яшчэ спаборнічаюць».

Лаза ўсё яшчэ была нацягнута, як струна, і ніхто не перамог. Нарэшце Чарапаха перарэзала яе вострым нажом. Гэта было так нечакана для Слана і Гіпапатама, што абодва ўпалі на зямлю.

Чарапаха пайшла налева і набрыла на сумнага Слана, які абмацваў ударaную нагу.

Слон сказаў: «Чарапаха, я не ведаў, што ты такая моцная. Калі лазіна парвалася, я ўпаў і пабіў нагу. Прызнаю, што мы з табой роўныя па сіле. Будзем называцца сябрамі».

Задаволеная Чарапаха пайшла да Гіпапатама. Ён выглядаў зусім хворым і трымаўся за галаву.

«Чарапаха, мы і сапраўды роўныя па сіле. Як бачыш, хоць я такі вялікі, мне не ўдалося перамагчы цябе. Значыць, сіла не ва ўзросце. Давай будзем сябрамі».

З таго часу, дзе б ні сустрэліся Слон, Гіпапатам і Чарапаха з другімі звярамі, яны садзіліся на самыя ганаровыя месцы і заўсёды называлі адзін аднаго сябрамі.

А ці былі яны роўныя сабе на самай справе? Як вы думаеце?

Іван Сіўцоў




З аповесці «Самыя юныя»

— Малайчына, Лёня! — прамовіў Вільнёў, выслухаўшы данясенне юнага разведчыка.

Скупыя словы пахвалы ўзрадавалі хлопчыка. Ён вышэй падняў галаву і сказаў звонкім голасам:

— Інакш і быць не можа, таварыш камбрыг!

— І больш нічога дзядзька Тодар не перадаваў? — запытаў Вільнёў.

Хлопчык адразу ж усхапіўся, успомніўшы пра чаравікі.

— Не ўсё яшчэ. Чаравікі пераслаў вам, — адказаў ён.

— Чаравікі? — перапытаў камбрыг. — Давай іх сюды.

Вільнёў дастаў з кішэні складаны ножык і пачаў адрываць падноскі. Адарваўшы падносак ад левага чаравіка, камбрыг кінуў яго ўбок і пачаў адрываць ад правага. Адтуль выпаў невялічкі, складзены ў чатыры столкі лісток паперы.

— Ёсць! — узрадаваўся Вільнёў і разгарнуў запіску.

У ёй паведамлялася: «Немцаў сёння ў горадзе ўсяго дзве роты. Адна з іх на вакзале, другая — у цэнтры горада. Невялічкая група, крыху больш узвода, у гестапа і ў штабе палявой жандармерыі. З дня на дзень камендант чакае падмацавання. Вельмі ўдзячны вам, таварыш Вільнёў, за паведамленне аб агентах гестапа ў нашай падпольнай арганізацыі. Да хуткай сустрэчы. Тодар». Тут жа быў змешчаны план горада, на якім там і сям віднеліся чорныя кружочкі — варожыя ўмацаваныя пункты.

Паўгадзіны таму назад Лёня быў крыху збянтэжаны, калі, пераправіўшыся ў чоўне цераз рэчку і прайшоўшы луг, на ўскраі лесу ён сустрэў не аднаго Дабрыніна, а і Вільнёва. Хлопчык нават крыху разгубіўся, заўважыўшы вакол сябе шмат узброеных людзей. Няўжо яны ўсе прыйшлі яго сустракаць?

Толькі цяпер Лёня ўсё зразумеў: партызаны рыхтаваліся нападаць на горад і тут, на ўскраіне лесу, чакалі надыходу ночы. Лёня якраз прынёс у пару патрэбныя звесткі аб немцах.

Пакуль Вільнёў праводзіў нараду з камандзірамі атрадаў, Лёня скінуў з сябе жабрацкія лахманы, апрануўся ў сваё адзенне, абуў боты, якія яму ўчора падарыў Дабрынін. Зноў у кішэні Лёні ляжаў пісталет, ужо з патронамі.

— Ну, пайшлі, Лёня! — сказаў нарэшце Дабрынін.

Ён падняў з зямлі ручны кулямёт, некалькі секунд моўчкі пазіраў на юнага партызана. «Усяго толькі тры дні ў нас, — падумаў ён, — а перамены якія». Успомніў той вечар, калі Вільнёў накіраваў яго па Лёню. Як балюча тады было хлопчыку. Цяпер гэты боль крыху суцішыўся, засталася нянавісць да чужынцаў, якія растапталі дзяцінства, забілі маці. Цяпер Лёня зрабіўся байцом, і дружны партызанскі калектыў для хлопчыка — сям'я.

Ішлі моўчкі. З двух бакоў і наперадзе маленькімі групамі руха-

лiся разведчыкі. У цэнтры ішлі галоўныя партызанскія сілы.

План Вільнёва быў просты. Вырашана было пераправіцца цераз рэчку і ўдарыць па станцыі. На выкананне гэтай аперацыі ішоў сам Вільнёў. Другая група партызан на чале з Дабрыніным павінна была напасці на гестапа і штаб палявой жандармерыі.

Хутка падышлі да ракі. Адшукалі лодкі, схаваныя ў невялічкай завадзі пад кустамі. Па чарзе пераправіліся.

Вось і першыя будынкі горада, маленькія, пахілыя. Цяпер паўзлі ўжо метраў за трыццаць-пяцьдзесят ад хат, па гародах. Лёня поўз услед за Дабрыніным. Калі Дабрынін спыняўся, хлопчык таксама прырастаў да зямлі.

Надышлі самыя напружаныя хвіліны. Дзесьці непадалёку былі немцы. Адзін неасцярожны крок, і вораг можа заўважыць партызан. Знікне тады цішыня, ноч асвеціцца ўспышкамі стрэлаў. Не дапаможа ні туман, ні цемень. А ўся баявая аперацыя будзе каштаваць партызанам многа крыві.

Гэта добра разумеў Лёня і стараўся паўзці як мага цішэй.

Перадавыя групы партызан бясшумна знялі нямецкую варту. І раптам дзесьці ззаду, відаць, на станцыі, прагрымеў стрэл. Яго адразу падтрымалі. Аўтаматы і кулямёты ўскалыхнулі ноч.

Партызаны, што ляжалі ў садзе, ажывіліся. Баявы сігнал іх таварышаў на станцыі быў пачаткам штурму.

— Агонь! — крыкнуў Дабрынін і даў кулямётную чаргу. — Наперад!

Людзі з крыкам «ўр-ра-а!» кінуліся да белых домікаў. У вокны паляцелі гранаты. Праз вокны і дзверы ўварваліся мсціўцы ў нямецкія казармы, канцылярыю гестапа. Мільгалі там і сям белыя постаці — гэта беглі па двары ў адной бялізне варожыя салдаты.

Лёня не адставаў ад Дабрыніна ні на крок. Вось яны спыніліся каля самых дзвярэй.

— Бі яго, Лёня! — раптам крыкнуў Дабрынін.

Лёня заўважыў перад сабою чорную постаць. Немец выстраліў з пісталета, цэлячыся ў хлопчыка, але прамахнуўся. Юны партызан, не разгубіўшыся, адразу ж выстраліў у нямецкага афіцэра, і той, узмахнуўшы рукамі, паваліўся.

Тым часам, штурмуючыя, знішчыўшы раптоўным ударам варту, ламалі замкі ў падвалах і выпускалі арыштаваных.

У гэты момант Лёня згубіў Дабрыніна і хацеў бегчы шукаць яго, але хтосьці дужымі рукамі падхапіў хлопчыка і моцна сціснуў яго ад радасці.

— Ой, баліць, дзядзечка!

— Нічога, нічога, хлопчык. — І калючы твар яшчэ бліжэй прыціснуўся да Лёні. — Нічога... Сярод нас таксама ёсць маленькі...

— Дзе ён? — захваляваўся Лёня.

— У камеры... Яго трэба несці...

У гэты ж час у дзвярах з'явіўся Дабрынін. На руках ён трымаў хлопчыка.

— Лёня, бачыш, Міша... Наш...

— Наш, — прашаптаў юны партызан.





## РАСЦВІЛІ ВЯСНУШКІ

Як толькі пачало прыграваць яркае веснавое сонейка, Юльчын твар нібы расцвіў: на носе паказаліся маленькія светлакарычневыя кропелькі — вяснушкі. Яшчэ заўчора іх было зусім мала, а сёння быццам вясновы ветрык у гэтым вінаваты — зірнула дзяўчынка ў люстэрка і здзівілася: вяснушкамі былі абсыпаны і шчокі, і нават рукі. І адкуль толькі яны бяруцца?

Удзень Юлька ішла са школы. Параўнялася з хлопчыкамі, і тыя раптам ні з таго ні з сяго абступілі яе і пачалі дражніцца: «Рыжая, рыжая!..»

— А вы, вы!.. — крыкнула дзяўчынка і ад крыўды заплакала.

Сапраўды, хіба яна вінаватая? Усе дзяўчынкі як дзяўчынкі, а на яе насланнё якое. Кожны год, аж да глыбокай восені, пакуль сонейка стане халодным, дзяўчынка пакутуе. Знікне сонечнае цяпло, а разам з ім знікаюць і вяснушкі.

Дома Юлька распранулася, падышла да люстэрка, і здалося ёй, што вяснушак на твары стала яшчэ больш. «Што рабіць? З кім параіцца? Трэба схадзіць да Паўлінкі, можа яна што-небудзь ведае», — падумала Юлька. Паабедала, крышку адпачыла, потым накінула на сябе паліто і пабегла.

Паўлінка сядзела за сталом, чытала кнігу. Убачыўшы Юльку, абрадавалася:

— Заходзь, заходзь! Кажы, што здарылася? Плакала? У цябе твар чырвоны. Плакала, скажы?

Юлька крышку сумелася:

— Плакала. Прыкра мне. Зірні, якая я стала: рыжая, уся ў вяснушках. Хлопчыкі смяюцца з мяне, дражняць, нібы я вінавата ў гэтым. Што рабіць? Як пазбавіцца ад вяснушак?

— Няма тут нічога страшнага. Я спачатку не заўважыла вяснушак на тваім твары, — сказала Паўлінка. — Але што б ты ні рабіла, адразу твой твар не стане чыстым. Я неяк чытала, калі паявяцца вяснушкі, трэба ўмывацца нанач прастаквашай, якая пастаіць тры-чатыры дні і добра скісне. Можна праціраць скуру лімонным сокам, разбаўленым вадою (сталовая лыжка соку на шклянку вады). А ўлетку, як толькі паявяцца агуркі, добра праціраць твар агурковым сокам. Ёсць шмат розных сродкаў, крэмаў, але карыстацца імі не трэба. Можна зусім сапсаваць скуру, і тады, чаго добрага, твар пакрыецца плямамі.

Але наогул, Юля, зірні, якая ты прыгожая. Вяснушкі падыходзяць табе. Цвітуць вяснушкі — і здаецца, што чалавек нібы расцвітае, харашэе.

На захадзе, напрыклад, у Францыі, вяснушкі лічацца прыкметай маладосці. Там жанчыны і дзяўчаты наўмысна падмалёўваюць свой твар «пад вяснушкі».

Юлька супакоеная і вясёлая вярнулася дадому.

# У Кляшчэлях

У гмiннай зборнай школе ў Кляшчэлях актыўна працуе гарцэрская дружына імя генерала К. Сварчэўскага. Апякуецца ёю настаўніца рускай мовы К. Такаюк. Дружына прымала актыўны ўдзел у збіранні металалому і макулатуры, а з зробленых пры гэтым 1080 злотых частку перадала ў грамадскі фонд пабудовы Інстытута здароўя дзіцяці ў Беластоку, а частку на пакупку абсталявання для летняга гарцэрскага лагера.

Хоць сёлетняя зіма не выдалася снежнай ды марознай, але кляшчэлеўскія сябры прыроды ўсё ж клапаціліся пра тое, каб лясныя звяры мелі ў кармушках сена, а птушкі — свае сталоўкі.

Добрыя справы рабілі гарцэры з восьмага класа. Яны наведвалі кляшчэлеўскіх пенсіянераў, дапамагалі ім у хатняй гаспадарцы. Усе застэмпы, а іх у школе 9, праводзяць акцыю «Слядамі нашых бацькоў». Яны выяўляюць удзельнікаў баёў за вызваленне Гайнаўшчыны і ўстанаўлення народнай улады, праводзяць з імі размовы, запісваюць успаміны. Неўзабаве адбудзецца спецыяльны збор дружыны, на які будзе запрошаны адзін з членаў ЗБоВіД, заслужаны ў час вайны чалавек.

Кляшчэлеўскія гарцэры маюць таксама добрыя вынікі ў навуцы, асабліва ў восьмым класе па матэматыцы і беларускай мове. Добра працуюць тут і іншыя арганізацыі. Вось, напрыклад, вучнёўская спулдзельня, у якой толькі ў студзені былі абароты на 1300 злотых.

**М. Гайдук, фота аўтара**



**Найлепшыя вучаніцы з восьмага класа па беларускай мове разам са сваёй настаўніцай Верай Міхноўскай.**

## АДГАДАНКА



Усе вы, напэўна, ведаеце казку пра ваўка, казу і казлянят. Колькі іх было ў казцы? А колькі ёсць на малюнку?

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✲ *

СССР, Донецкая обл., г. Торез, ул. Парижской Коммуны, дом 78, кв. 20. Лене Морозовой. Дзяўчынцы 15 год.

* ✲ *

СССР. 346756, Ростовская обл., Азовский район, х. Зелёный Мыс, Арсентьевой Надежде. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Марыя Грыгарук, вёска Градочна, пошта 17-208 Кленікі, Гайнаўскі павет. Марыся вучыцца ў восьмым класе ў Янове.

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону, 34, ул. Портовая, дом 104, кв. 8. Галя Кукурба, вучаніца чацвёртага класа.

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону, 34, ул. Аврора 5. Крупинину Сергею, Сярожа вучыцца ў 4 класе.

* ✲ *

СССР, 344034, г. Ростов-на-Дону, ул. Портовая, дом 2, кв. 1. Русаковой Лене. Лена вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Іра Дзмітрук, вучаніца 7 класа, вёска Старына, пошта 17-241 Палічна, Гайнаўскі павет.

* ✲ *

Славік Міхалоўскі, вучань сёмага класа, вёска Горны Груд, 19, пошта 17-241 Палічна, Гайнаўскі павет.

* ✲ *

Клімук Віктар, вучань восьмага класа, вёска Горны Груд 4а, пошта 17-241 Палічна, Гайнаўскі павет.

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka" BZGraf. P-3